# Дняпроўская СТРОМА




№ 3 чэрвень 2012 г.

Выдаецца з мая 2012 г.

ЛІТАРАТУРНА - МАСТАЦКІ І ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
МАГІЛЁЎСКАГА АБЛАСНОГА АДДЗЯЛЕННЯ САЮЗА БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ


# Белы бусел над Пісьмянковым лугам




**26 мая 2012 г. у вёсцы Бялынкавічы Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці адбылося першае абласное свята паэзіі і аўтарскай песні «Пісьмянкоў луг», названае ў гонар вядомага беларускага паэта, ураджэнца гэтай вёскі Алеся Пісьмянкова. Быў адкрыты памятны знак «Пісьмянкоў луг». У конкурсе паэзіі і аўтарскай песні ўзялі ўдзел прадстаўнікі ўсіх раёнаў Магілёўшчыны і Суражскага раёна Бранскай вобласці. На свята былі запрошаны прадстаўнікі Магілёўскага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання "Саюз беларускіх пісьменнікаў", старшыня аддзялення Мікола Яцкоў увайшоў у склад журы конкурсу выканаўцаў.**

**Прапануем увазе чытачоў матэрыялы, падрыхтаваныя ўдзельнікамі і сведкамі гэтага свята. Таксама мы палічылі неабходным зазірнуць у мінулае і зноўку прайсціся сцежкамі памяці, дзе прыцягальная ўсмешка Алеся Пісьмянкова і сагравае, і ўсцешвае - аж да сёняшняга дня...**

## Пра фестывалі, паэзію і Алеся Пісьмянкова

Даўно ўжо сказана, што чаканне свята заўсёды больш узнёслае, шчымліва -радаснае, чым яго велічнае шэсце ў пазначаны час. Чаму так бывае? Перагарае пачуццё неспадзяванасці, навізны, нечаканых уражанняў, ці расчараванне ў сваіх найвышэйшых спадзяваннях? Відаць, адказу на гэта пытанне не можа даць ніхто, хоць напэўна кожны перажываў нешта падобнае, або перажывае зараз такія ўтрапёныя хвіліны чакання. Здавалася б, што ўжо мне, чалавеку паважлівага ўзросту, нечага хвалявацца, чакаць адкрыццяў, ці нейкіх неспадзяванак. Аднак жа, не. Даведаўшыся, што ў Бялынкавічах Касцюковіцкага раёна ладзіцца Першае абласное свята паэзіі і аматарскай песні "Пісьмянкоў луг", не ўтрымаўся, даў згоду з'ездзіць, падзяліцца сваімі ўражаннямі пра сустрэчы з цудоўным паэтам, пашукаць новых талентаў.

Падштурхнула, відаць і тое, што край сапраўды прыгожы, багаты на таленты, хоць лёс для многіх з іх быў даволі няўдзячны. Акрамя таго, там засталіся, працуюць, цепляць надзею на лепшае многія нашы выпускнікі, якіх мы пасылалі сеяць добрае, разумнае, вечнае і замацоўвацца ў краі сапраўднай беларускасці. Хацелася ўбачыць, ці спраўджваюцца нашы спадзяванні.

Як бачна, матываў было дастаткова, і ўражанняў таксама хапіла. Чаго варта толькі сама паездка праз мёртвую зону, дзе акрамя могільнікаў ды каменіц з выдранымі вокнамі і дзвярамі, ніводнай жывой душы. Ды гэтыя каменіцы, кажуць, па начах разбіраюць і недзе прадаюць цэглу як б/у. Ці было калі ў такіх людзей сумленне?

Але пра свята. Усё арганізавана было цудоўна. Шмат хацелася гаспадарам паказаць, напоўніць праграму разнастайнасцю. І многае ўдалося, хоць адчуванне пэўнай зададзенасці прысутнічала. Трохі ненатуральнымі былі выступленні самых юных твор-цаў, якія чыталі вершы пра Вялікую Айчынную вайну. Напэўна гэта былі заданні вучням падрыхтавацца да свята Перамогі, таму і вершы атрымліваліся агульныя, без душэўнага ўздыму. Пераважала руская мова, што таксама не дадавала ўзнёсласці. Праўда, былі і неспадзяванкі. Напрыклад, цудоўная беларуская мова і жывое выступленне А.Кунцэвіча - начальніка Упраўлення ідэалагічнай працы Магілёўскага аблвыканкама.

Увогуле конкурс як конкурс. Заўсёды нешта бывае не так, як чакаеш. Хацелася б каб на свяце, якое мае назоў "Пісьмянкоў луг", больш прысутнічала яго вершаў, бо выступленне брата паэта ў сярэдзіне канцэртнай праграмы неяк сушавалася. Выдаваць нейкія рэкамендацыі наўрад ці правамерна, ды ўсё ж варта арганізатарам падумаць як правесці такое свята на наступны год, або праз год. Магчыма, дзіцячы конкурс лепш было б правесці асобна. Спачатку правесці поўнасцю літаратурную частку, дзе б чыталі вершы госці свята, прагучалі б успаміны пра выдатнага паэта, які так рана пакінуў гэты свет. Канцэртную праграму перанесці на другую палову дня. Можна рабіць нейкія перапынкі, каб прысутным больш часу было паглядзець выставы, купіць сувеніры.

І ўсё ж такі свята адбылося, прыгожыя краявіды радавалі сэрца. І хочацца верыць, што прысутныя духоўна ўзбагаціліся.

*Яраслаў КЛІМУЦЬ.*

## Пакаціўся верш паэта светлаю слязою...

Мы едзем на свята Алеся Пісьмянкова. Мы, гэта - Яраслаў Клімуць, Сяргей Украінка, Мікола Яцкоў з жонкаю Алай, Алена Асмакоўская. Дарога бяжыць па Касцюковіцкай зямлі. Мясціны прыгожыя. Яшчэ песціць вока маладая, не апаленая сонцам зяляніна. Абапал дарогі лес, хмызняк. Пейзаж аздабляюць шарападобныя лазовыя кусты, падстрыжаныя самой прыродаю. Алена Асмакоўская заўважае, што лазу можна было б прымяняць пры праектаванні гарадскога ландшафту: і прыгожа, і эканамічна выгадна.



І раптам - камень-валун, а побач - шыльда з надпісам: *"Асцярожна - радыяцыя".* Спыніліся. На валуне запісана назва вёскі, колькасць яе двароў і жыхароў. Пастаялі. Памаўчалі. Паразважалі. Як склаўся лёс гэтых перасяленцаў, аднаму Богу вядома.

Едзем далей. То справа, то злева замест вёсак - камяні-валуны. Нечакана з зарасніку на нас зыркнула пустымі чорнымі вачніцамі былая школа. Сэрца сціснулася, быццам на мяне з дакорам паглядзела пакінутае, нікому непатрэбнае дзіця. Жудасна. Дваццаць шэсць гадоў прайшло з дня Чарнобыльскай трагедыі, а яе чорнае крыло і сёння яшчэ распрасцёрта над Белай Руссю.

Зона скончылася. На лузе пасвіцца статак калгасных кароў. Праехалі Касцюковічы. Адсюль ужо рукой падаць да Бялынкавіч. Арганізатары добра падрыхтаваліся да свята. Назвай паслужылі словы самога паэта -- *"Пісьмянкоў луг".* Тут і сцэна аформлена, і лаўкі для гледачоў, і майстры народных промыслаў са сваімі вырабамі, і шашлыкі з квасам ды прысмакамі. Паспрыяла і надвор'е.

Калі вершы Алеся Пісьмянкова ўсхвалявана чытаў яго родны брат Мікола, вочы не ў адной мяне павільгатнелі. Гучала трапяткое, гаючае пісьмянкоўскае слова...

*Пакаціўся верш паэта*
*Светлаю слязою*
*На ягоны луг, на Бесядзь,*
*Заблішчаў расою...*

Свята было спланавана на ўвесь дзень. Мы з Аленай Асмакоўскай прайшліся па вёсцы, спусціліся да Бесядзі, прыселі на мурагу. Рыбакі вудзілі рыбу, дзесяцігадовыя хлапчукі весяліліся. Магчыма, менавіта тут, такім вось хлапчуком, бегаў малы Пісьмянок, вудзіў рыбу, купаўся. І, можа, тут зарыфмаваў свае першыя радкі. Мне ўспомніўся яго верш "Краявід":

*Малюнак някідкі*
*Уздрыгнуць прымусіў:*
*Над рэчкай - ракітнік.*
*На поплаве - бусел.*
*І - хата ў бярозах*
*На самым узгор'і...*
*І слёзы, і слёзы*
*Казычуць у горле.*

Алесь Пісьмянкоў тут, з намі, - у вершах і ў удзячнай памяці землякоў.

*Тамара АЎСЯННІКАВА.*




**Каля 22-тоннага памятнага валуна:**

*Мікола Яцкоў, Ала Яцкова, Алена Асмакоўская, Тамара Аўсяннікава, Яраслаў Клімуць, Сяргей Украінка, Віктар Арцем'еў.*



# Фотаальбом






Калісьці вёска тут была...



Яраслаў Клімуць і Сяргей Украінка



Сасна пры дарозе



Адкрыццё памятнага знака



Над лугам песня паляцела...



Майстры народных вырабаў






Члены журы Мікола Яцкоў, Аляксандр Церахаў, Уладзімір Дуктаў



Выступае Мікалай Пісьмянкоў



Выконваючы абавязкі старшыні Касцюковіцкага райвыканкама Генадзь Баханаў, начальнік Упраўлення ідэялагічнай работы Магілёўскага аблвыканкама Андрэй Кунцэвіч і дырэктар Магілёўскага абласнога цэнтра народнай творчасці Алег Хмялькоў



Магілёўскім літаратарам не замінае, што яны ў розных саюзах: Уладзімір Дуктаў, Сяргей Украінка, Мікола Яцкоў і Яраслаў Клімуць

# Яшчэ не верыцца ў страту...

Нечаканае запрашэнне ў вандроўку на свята паэзіі "Пісьмянкоў луг" прынесла мне шмат прыемнасцей. Я пабачыла Бялынкавічы – вёску на строме над Бесяддзю, здаецца, вядомую аж з шаснаццатага стагоддзя. Мы сядзелі на траве каля Бесядзі, хадзілі па вёсцы, наведалі школьны музей, пабывалі ў вёсцы Белы Камень.

Асабліва ўразіў камень, усталяваны на месцы правядзення свята, магчыма, самы вялікі на Касцюкоўшчыне. Землякам паэта прыйшлося з ім нялёгка, бо кажуць, што ён важыць 22 тоны. Затое ніхто не зрушыць, навечна пазначаны гэты кавалак зямной кулі за паэтам.

За Бесяддзю неабсяжны луг, там спее трава і хутка прыспее пара яе касіць. Дзе ты, паэт? Кідай складаць свае вершы. Дзе ты? Яшчэ не верыцца ў страту, яшчэ празнадта жывыя ўспаміны сяброў, што разам ехалі на свята. Сяргей Украінка пазнаёміў нас са сваімі творамі і распавядаў, як усю ноч яны з Алесем чыталі адзін аднаму вершы, начуючы на падлозе ў інтэрнаце. Мікола Яцкоў склаў скарб сваіх успамінаў і прысвячэнняў у кніжачку, напісаў песні на словы паэта. Шкада, што мы не мелі магчымасці іх пачуць.

Спадабаліся людзі, якія ладзілі свята і шчыра нас віталі, штосьці глыбока сапраўднае адчувалася ў іх, такая стрыманая добразычлівасць, самадастатковасць і гатоўнасць да размовы. Здзіўляе адданасць свайму Паэту, што зараз сустрэнеш рэдка. Шмат музыкі і паэзіі, шмат талентаў, але сумна: мала беларускамоўных твораў гучала са сцэны. Быў момант нейкага адчаю, здавалася, што мы іх наогул не пачуем, але потым гэта крышачку выправілася. Хацелася б, каб на такім свяце гучалі ўспаміны сяброў, аднавяскоўцаў, калег паэта, каб кожны ўдзельнік конкурснай праграмы перад сваім выступленнем прачытаў хаця б адзін верш Алеся Пісьмянкова, альбо свае прысвячэнні паэту. Каб Паэт быў побач з намі не толькі ў нашых думках. але каб ён гучаў -- і каб мы яго чулі.

*....І я візітоўку сабе закажу,*
*На здзіўленне гасцей ганаровых,*
*Два радкі*
*я на ёй напішу:*
*"Перакладчык*
*з мовы дажджу*
*на родную*
*мову."*



Алена АСМАКОЎСКАЯ.

# У кожнага з нас павінен быць свой луг




*У Касцюковічах прайшло свята паэзіі і песні «Пісьмянкоў луг», прысвечаны памяці вядомага магілёўскага паэта Алеся Пісьмянкова. У гэтым годзе свята набыла статус абласнога. Сярод ганаровых гасцей дзеі быў паэт і кампазітар, старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання "Саюз беларускіх пісьменнікаў" Мікалай Яцкоў. Мы запрасілі яго на размову пра паэзію, жыццё і творчасць.*

► У кожнага з нас у дзяцінстве, асабліва былых сельскіх падлеткаў, быў свой сад з хвацкімі яблыкамі, свой лес, у якім толькі ты ведаў усе таемныя грыбныя сцежкі, свая рэчка, дзе добра бралася рыба, свой луг з гнёздамі жаўрукоў і гарачай касавіцай .. Як правіла, усе гэтыя дзіцячыя таямніцы назаўжды прапісваюцца ў сэрца ўжо дарослага чалавека і суправаджаюць ўсё жыццё. Кліч малой радзімы непадуладны ніякім забаронам - мы вяртаемся сюды ў сне і наяве, чэрпаем сілы для жыцця і творчасці. У вас, Мікалай Адамовіч, ёсць такое прыцягальнае месца?

◄ Такіх месцаў у мяне некалькі. Папершае, гэта радзіма маіх бацькоў - вёскі Даманы і Пудаўні Дрыбінскага раёна, дзе хлебнае поле, сенажаці, сінеючы ўдалечыні лес, жаўрук ў бяздонным небе, а зімой снег амаль да самага даху хаты - гэта не проста паэтычныя метафары ці штосьці адддалена-абстрактнае, а рэальнасць, якая ўваходзіць ў тваё «я» практычна з нараджэння. І, па-другое, вельмі выдатна сагравае магілёўскі двор майго дзяцінства - дзе да гэтага часу стаіць цагляны барак у пачатку вуліцы Раманава (былая Кавалерыйская), а за плотам дрэмлюць Успенскія могілкі. І мая першая школа № 11 на Мянжынцы... Менавіта там самыя светлыя апорныя кропкі майго мінулага, якія дапамагаюць жыць. І якія заўсёды вельмі светла і сонечна рэзаніруюць ўва мне, нараджаючы і вершы, і музыку.

► Як узнікла ідэя правядзення літаратурнага свята ў Касцюковічах?

◄ Я з гэтым выдатным святам сябрую даўно. Ідэя там паўстала ў пачатку 2000-х гадоў - зрабіць свята паэзіі і музыкі. Мы ж ведаем, што Касцюковіцкая зямля вельмі багатая на таленты - адтуль родам Аркадзь Куляшоў, Іван Чыгрынаў, Аляксей Русецкі, Пятро Прыходзька, Масей Сядднёў, Васіль Хомчанка, Леанід Левановіч, Віктар Патапенка і вядома ж Алесь Пісьмянкоў. Паглядзіце - якія імёны! І які след у літаратуры пакінулі!.. Таму і з'явілася ідэя, якая паступова афармлялася і набывала

рысы рэальнага свята. А пачатак быў пакладзены ў 2002 годзе, калі сабраліся літаратары,шматлікія госці, усе тыя, каму дорага беларускае паэтычнае слова. І прысутнічаў сам Алесь Пісьмянкоў, які безумоўна падтрымаў гэта пачынанне, яшчэ не здагадваючыся, што свята гэта неўзабаве назавуць яго імем... Дарэчы, у сувязі з гэтым у мяне заўсёды ўзнікае пытанне: а што перашкаджае называць такія святы імёнамі паэтаў пры іх жыцці? Чаму трэба абавязкова чакаць іх смерці, а потым з прыдыханнем казаць, якія яны былі геніяльныя? Думаю, трэба ламаць гэтую дзіўную традыцыю -- каб пры жыцці творцаў іх імёнамі называліся і святы, і вуліцы.

► У гэтым годзе свята атрымаў статус абласнога - наколькі гэта падняло яго ўзровень?

◄ Сапраўды, свята перарасло раённыя рамкі, і гэта цалкам натуральна. Усе цікавае і пазітыўнае, асабліва ў духоўнай сферы, павінна мець абавязковыя і працяг, і развіццё - гэта аксіёма. Без гэтага складана рухацца наперад. Таму пашырыліся і рамкі свята - прыехалі прадстаўнікі амаль усіх раёнаў Магілёўшчыны, а таксама госці з суседніх раёнаў Бранскай вобласці Расіі. Гэта ўжо паказчык і добрая перадумова для ўзняцця статусу да ўзроўню міжнароднага. Думаю, так і будзе. Усяму свой час.

► У якім шэрагу беларускага літаратурнага Парнаса знаходзіцца імя паэта і пісьменніка Пісьмянкова? Чым знакаміты, што напісаў, чым адрозніваецца ад іншых?

◄ Думаю, яго імя стаіць бліжэй да пярэдняга краю, калі прытрымлівацца прапанаванай тэрміналогіі. Справа ў тым, што Алесь свае вершы не складаў - ён іх *думаў*. Гэта ў яго была такая форма існавання - як дыхаць. У яго не было нічога лішняга ў гэтым самавыяўленні - усё на месцы, усё сапраўды, усё вельмі натуральна і гарманічна. Проста так гэта не бывае, гэта - дар Божы. Алесь быў вельмі беларускім у сваёй паэтычнай неабсяжнасці, таму што, напэўна, толькі ў беларускай мове сэнс сказанага знаходзіцца не ў механістычнай канструкцыі слова ці складу, а недзе пад словамі, над імі, паміж імі. Гэта тое, што называецца «аўра» мовы. Гэта нельга патлумачыць, гэта - ад Бога. І разуменнем гэтага, безумоўна, валодаў Пісьмянкоў. Гэтым ён і знакаміты. І вельмі шчодры з усімі, хто датыкаецца да яго непаўторнага і таямнічага сусвета.

► Якія радкі паэта Пісьмянкова вы носіце ў сэрцы або яны сугучныя вашым думкам?

◄ У паэта Пісьмянкова, на мой погляд, практычна няма "прахадных" ці нейкіх банальных вершаў. Наколькі ён быў закаханы ў жыццё, настолькі жыццём яго вершы і перапоўненыя. Проста адкрывайце любую яго кнігу ў любым месцы - і радкі адразу пачынаюць класціся на сэрца. І ты адразу пачынаеш думаць і суперажываць. І аднекуль узнікае мелодыя гэтых радкоў - бо яны вельмі музычныя. Памятаю, мы разам неяк выступалі ў Оршы і ён падарыў мне буклет-складанку са сваімі вершамі - такі вялікі ліст. І я, прыехаўшы дадому, раскрыў яго, учытаўся і тут жа адчуў проста фізічную вібрацыю гэтай паперы - гэта так прасіліся вонкі мелодыі вершаў, надрукаваных на гэтым лісце. І літаральна за тры дні я іх адтуль вызваліў - і нарадзіўся песенны цыкл. А Алесь на маё пытанне: *«Ну, як табе песні?»* адказаў: *«Слухаў і плакаў»*. Вось і ўсё. Дзеля такіх адказаў варта жыць на гэтым свеце ...

Мне вельмі падабаюцца вось гэтыя ягоныя шэсць радкоў, якія таксама сталі песняй:

*Узмакрэлы і босы,*
*Бронзавы ад загару,*
*Стомлены сенакосам*
*Ліпень прылёг памарыць ...*

*Мёдам на ўсю Еўропу*
*Пахнуць стагі і копы.*

Вось ён – сапраўдны беларускі патрыятызм. Без надрыву і стукату кулаком у грудзі. Проста. Зразумела. І - на ўсю Еўропу.

► Ці ведае моладзь гэтага паэта? Мабыць, свята ў Касцюковічах павінна спрыяць папулярызацыі творчасці Пісьмянкова і творчасці ўсіх беларускіх паэтаў? Як праходзілі выступленні паэтаў?

◄ Мяркуючы па тым, што асноўны кантынгент выступоўцаў быў даволі маладым па ўзросту, можна сказаць, што моладзь цягнецца да слова, да музыкі. Гэта адчувалася па выступах - удумлівых і не фармальных. І гэта радуе. Вядома ж, праз папулярызацыю беларускага слова і музыкі наогул, прыходзіць і разуменне асобы Пісьмянкова, яго значэння для нашай культуры і для кожнага беларуса. Паўтаруся: ўсяму свой час.

► Хто са знакамітых гасцей удзельнічаў у свяце?

◄ Калі мець на ўвазе, што ўсе знакамітыя жывуць у Мінску, то чамусьці ніхто адтуль на свята не прыехаў. Нават тыя, хто ўсюды і заўсёды сцвярджаюць, што Пісьмянкоў - іх самы блізкі сябар і нават брат. Вядома, гэта дзіўна... Быў брат Алеся - Мікалай, які, як заўсёды, вельмі добра казаў і вельмі хваляваўся. Былі літаратары з Магілёва, Гомеля, Быхава, Горак, якія выдатна гаварылі ўсе, што яны думаюць пра паэта і чалавека Алеся Пісьмянкова. І такое трапяткое стаўленне не можа не цешыць.

► Удзельнікі і госці свята адкрылі камень - што ён азначае?

◄ Так, гэта вельмі цікавы момант! Камень важыць 22 тоны, на ім мемарыяльная дошка з надпісам «Гісторыка-культурныя аб'ект «Пісьмянкоў луг». Тут усё вельмі сімвалічна, усё працята знакамі. Гэта і абазначэнне месца - адкуль вытокі і ў якой зямлі карані. І межавы камень - на мяжы зямнога і астральнага, мітуслівага існага і вечнага нябеснага. І камень-следавік - вельмі цёплы, які нясе на сабе адбітак душы паэта. А яшчэ трэба памятаць, што ўсе валуны - жывыя, і яны запісваюць ўсё, што адбываецца на сваю крышталічную матрыцу. І калі-небудзь нашы нашчадкі навучацца расшыфроўваць гэтую інфармацыю - і будуць вельмі дзівіцца, напэўна ...

► Ці будзе працяг? Што спадабалася, што не вельмі?

◄ Вядома, працяг будзе. Я ў гэтым не сумняваюся. Хочацца, каб на гэтым па сваёй сутнасці беларускім свяце пераважала беларуская мова. Было вельмі прыемна (і нечакана), калі начальнік Упраўлення ідэалагічнай работы аблвыканкама А.Кунцэвіч на выдатнай беларускай мове (без шпаргалкі!) сказаў сваё прывітальнае слова. І гэта, на жаль, вельмі кантраставала з багаццем рускамоўнага на свяце. Думаю, з часам усё тут выправіцца. Таксама хацелася б, каб больш гучала вершаў самога Пісьмянкова, песень на яго вершы, вершаў і песень, прысвечаных яму. Гэта, на мой погляд, неабходна аформіць у асобную намінацыю творчага конкурсу. Калі гэта «Пісьмянкоў луг», то, так бы мовіць, па дрэву расціцца не трэба, і адпаведная накіраванасць і інтанацыя павінны вытрымлівацца. Інакш гэта пераўтворыцца ў неразборлівую какафонію гукаў і памкненняў.

► Кажуць, талентам трэба дапамагаць, а бездар і сам праб'ецца. Як вы лічыце, чаму сёння ў творчасці няма роўных таму ж Пісьмянкову, а таксама гонару Магілёўшчыны - Пысіну, Куляшову .. Ці, як глаголіць ісціна, таленты з'яўляюцца раз у сто гадоў?

◄ Я думаю, бяда ў тым, што паміраe вёска, а з гэтым адміраюць і ўсыхаюць карані, якія сілку-


Тамара Аўсяннікава і Ала Яцкова ў музеі Бялынкавіцкай школы


Дырэктар Касцюковіцкай ЦБС Ала Мартыненка і рэдактар быхаўскай газеты "Маяк Прыдняпроўя" Мікола Леўчанка


Віктар Арцем'еў і Сяргей Украінка


Гледачы


Два Міколы. (Мікола Яцкоў і начальнік аддзела культуры Касцюковіцкага райвыканкама Мікола Тыманюк)


Літаратары на строме ля Бесядзі


Прывітанне табе, Бесядзь!



Легендарная вёска, апетая Алесем Пісьмянковым

# СЛОВА
## пра Алеся Пісьмянкова

У канцы 70-х гадоў паэт Аляксей Пысін, калі заходзіла гаворка пра Аркадзя Куляшова, увогуле пра Касцюковічы, абавязкова згадваў Алеся Пісьмянкова (на той час яшчэ пачаткоўца): ***"Таленавіты паэт!"*** - і раіў мне звярнуць увагу на яго вершы.

Пазнаёміцца бліжэй з паэтам-земляком мне давялося толькі 5 чэрвеня 1988 года ў вёсцы Цялуша Бабруйскага раёна на свяце Пушкінскай паэзіі. Ён мне запомніўся светлавалосым, з пшанічнымі вусамі, з ладна збітай постаццю. Увесь час вочы яго свяціліся, твар таксама свяціўся ўсмешкай сціплага лагоднага чалавека, чалавека дабрыні, радасці і аптымізму...

Алесь Пісьмянкоў быў рады нашай сустрэчы. Калі даведаўся пра маё сяброўства з Пысіным, то быў задаволены і сказаў: ***"Ён мой Настаўнік".***

З той памятнай сустрэчы я не толькі чытаў надрукаванае ў свежых газетах і часопісах, але ўжо шукаў яго зборнікі. Самабытны, ні пад каго не падрабляецца. Піша каротка, ёмка, вобразамі, с філасофскім роздумам.

Аднаго разу ў згадцы пра Анатоля Сербантовіча, майго земляка з в.Ордаць, я спаслаўся на ўспамін А.Пісьмянкова "Ці збываюцца вершы". Ксеракопію публікацыі з шклоўскай газеты "Ударны фронт" паслаў Алесю Уладзіміравічу, а яшчэ паклаў у канверт старонку касцюковіцкай газеты пра вёску Канічы - вёску яго маці. Праз нейкі час атрымаў у адказ ліст:

*"Шаноўны Віктар Іванавіч! Вось нарэшце сабраўся Вам напісаць, хоць ведаю, што зрабіць гэта трэба было даўно. Але ведаеце, здараецца заўсёды так, што людзям блізкім мы адказваем у апошнюю чаргу, маўляў, свае не пакрыўдзяцца. Што зробіш - славянская рыса.*

*Вялікі дзякуй за ваш клопат і пра Аляксея Васільевіча, і пра івана Гаўрылавіча, і пра Анатоля Сербантовіча, і пра мяне грэшнага, а яшчэ дзякуй за Канічы. Адтуль з Канічаў была, на жаль, была маці Марыя Сямёнаўна. Зрэшты, адтуль увесь яе род, а значыць і мой. Не так даўно я быў там - ездзіў на Раданіцу - і зноў на свае вочы бачыў сляды былой велічы і раскошы некалі знакамітай вёскі. Дзвэчы, з Канічаў і Васіль Хомчанка. Я ведаю, што Вы чалавек сціплы, і таму абяцаю, што ўсё дасланае Вамі ў "ЛіМ" будзе надрукавана.*

*З правагай, Алесь Пісьмянкоў.*
*3.06.2002 г. г. Мінск. "ЛіМ"*

І "ЛіМ" надрукаваў нямала майго, і не толькі пра А.Пысіна.

У канцы 2003 года ў нас адбылася другая і, на вялікі жаль, апошняя сустрэча з вока на вока: Алесь Пісьмянкоў прыехаў у Магілёў на адкрыццё мемарыяльнай дошкі на вуліцы, якой надалі імя Народнага пісьменніка Івана Чыгрынава. Гэта была ўжо сустрэча двух сяброў. Алесь Уладзіміравіч і на афіцыйнай частцы, і ў застоллі быў побач са мной. Мы мелі магчымасць хораша пагаварыць аб усім. У Алеся Уладзіміравіча было жаданне сустрэцца з чытачамі-магілёўцамі. І я дамовіўся аб такіх сустрэчах у розных магілёўскіх навучальных установах. Але за некалькі дзён да падрыхтаваных сустрэч паэт перадаў мне па тэлефоне, што ў сувязі з фінансавай рэвізіяй у рэдакцыі "Вожыка" (былі там "грахі" папярэдняга рэдактара) ён прыехаць не зможа. Сустрэчы перанеслі на люты, а потым на нявызначаны час. І раптам, як гром з яснага неба, вестка, што майго сябра 23 красавіка 2004 года не стала. Вестка вельмі ўжо нечаканая, а таму нясцерпна балючая...



**Віктар АРЦЕМ'ЕЎ.**

юць наш народ. Усё ідзе ад зямлі, менавіта яна - крыніца і жыцця, і нябеснага натхнення. Адкуль прыйшоў у беларускую паэзію яе гонар? З вёскі -- з вясковых беларускамоўных школ, ад сялянскай з маленства працы, ад яснага разумення што такое радня і земляки ... У горадзе гэтага няма. Там паміж чалавекам і зямлёй - асфальт. У прамым і пераносным сэнсе. Там заядаюць тлум і мітусня, часцяком бессэнсоўнасць нейкіх пачынанняў, якія ўяўляюцца вялікімі. І галоўнае - там штосекундна выпрабоўваецца на трываласць аснова асноў ўсяго існага - каханне, любоў. І калі яны выходзяць - зыходзіць і жыццё. І паэты гэта ведаюць. І Пісьмянкоў гэта ведаў, пастаянна паўтараючы: *«Я не памру, пакуль люблю...»* Відаць, і памёр так заўчасна, што яго пакінула любоў. Хто ж ведае ...

Ён пайшоў, алё назаўсёды застаўся з намі. І пісьмянкоўскае традыцыйнае развітальнае *"Не знікай!"* заўжды будзе нас асвятляць, саграваць і натхняць. І белымі буслами будуць аднекуль выплываць вершы - як вось гэты, якія ў тым чароўным месцы здарыўся ў мяне раптам і нечакана:



*Як жа хораша мне тут! ...*
*І скрозь сэрца той маршрут,*
*Тут аснова ўсіх асноў -*
*Луг чароўны пісьмянкоў.*

*А над Бесяддзю званы*
*Калыхаюць туманы*
*І скрозь іх у думках увесь -*
*Вунь, глядзі - ідзе Алесь.*

*Ён ідзе адтуль да нас*
*І нясе свой пераказ*
*Тых вышынь, дзе нас няма -*
*Каб жылі мы не дарма,*
*Каб сябе мы не згубілі,*
*Каб кахалі і любілі,*
*Каб праз ліпень плыў вянок ...*

*Ой, ты, братка Пісьмянок!..*



"Веснік Магілева",
13.06.2012 г.

# У вянок Алесю Пісьмянкову



*Алесь Пісьмянкоў на Бесядзі.*
Фота В.Патапенкі.

**Тамара АЎСЯННІКАВА**

* * *

Пакаціўся верш паэта
Светлаю слязою
На ягоны луг, на Бесядзь,
Заблішчаў расою.
У Бялынкавічах свята,
Свята Пісьмянкова,
Чыстым веснім аксамітам
Загучала слова.
Ах, Алесь, ах, братка мой,
Пры жыцці б сустрэцца!
Гаманілі б мы з табой,
Слухала б нас Бесядзь.

*2012 г.*

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ**

* * *

Святым Духам над Бесяддзю
Белы бусел ляціць,
І нам голас Алесеў
З паднябесся гучыць.
З намі ён неўмiручы
І ўжо парасткі даў,
Каб над Бесяддзю-рэчкай
Спеў яго не змаўкаў.
І мы верым, што будуць
Яго песні гучаць,
Пакуль белыя буслы
Ў небе змогуць лятаць.

*2008 г.*

**Сяргей УКРАІНКА**

* * *

Дакорам той дзень:
пад ігрушаю белай
смакую па кроплі "бяду маю"
і чую раптоўна
душой захмялелай,
што ён ужо вершы не думае!
Паверыць у глупства? Ды ну...
Прадчуваннем
"па-свойму" даваў тады рады я.
... Назаўтра прыйшлі –
і гнятлівае ранне,
і праўда цвярозага радыё.
"Нашто не мяне, а Паэта забрала?!" –
у голаў кашчунне палезла...

... Гадамі планіды нас
ураўнавалі.
Гадамі, але не паэзіяй.

*2008 г.*

**Ала ЯЦКОВА**

*Калісьці Алесь падпісаў мне сваю кніжку так: «А'ле кажу: але' !..»*

* * *

Ў нябыт пайшоў.
А з намі побач
Сумуюць вершы на стале.
На ўвесь сусвет --
праз жаль і горыч --
Табе кажу сваё: *"Але'!.."*

*2012 г.*

**Мікола ЯЦКОЎ**

* * *

... Плачуць берагі
Бесядзі Тваёй.
У сівой тугі -
залаты спакой.
І ў світанак зноў
Твой плыве вянок...
Светлых Табе сноў,
братка Пісьмянок!..

*2004 г.*

# Сяргей Украінка: *"А вось гэтыя фоткі існуюць, магчыма, у адзіным экзэмпляры..."*






***Уладзімір Марук, Вольга Русілка, Алесь Пісьмянкоў, Сяргей Украінка.***
Мінск, чэрвень 1979 г.



***Алесева аднакурсніца** (прозвішча невядома), **Алесь Пісьмянкоў, Вольга Русілка, Сяргей Украінка, Уладзімір Мазго.***
Вязынка, ліпень 1979 г.

*Друкуюцца ўпершыню*

**Фотаздымкі з асабістага архіву С.Украінкі**


*"ДНЯПРОЎСКАЯ СТРОМА"*
Літаратурна-мастацкі і інфармацыйны бюлетэнь
Магілёўскага абласнога аддзялення
ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў".
Распаўсюджваецца на правах
унутранай дакументацыі.

Адказны за выпуск -
Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі,
вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: mikolabryl@gmail.com

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць
за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку *15.06.2012 г.. 21.00.*
Наклад 50 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

«Дняпроўская строма» заўсёды на www.kamunikat.org